## Маналог пеўня ў год Пеўня

Настрой такі,
Што выбухне, як порах:
Абрыдла ў лад гаспадарам спяваць.
Як і раней,
Мы ўсе цяпер пры шпорах,
Але — пры тых,
Што ў непагадзь баляць.

Ці то ад болю,
Што вярэдзіць пяткі,
Ці то ад пыхі,
Чуйнай, як мікроб, —
Сабрата стрэўшы,
Люта, без аглядкі,
Сыходзімся ў сутычцы лоб у лоб!

Хто там з-за плота
Зіркае дасвеццем?
Прабач, сусед,
Ты зараз мне — чужы.
Забудзь, як разам
Грэбаліся ў смецці,
Гарэм агульны мелі на мяжы!

Навостраны ў нас дзюбы,
Быццам джалы.
Цяпер, сусед,
Не жартачкі са мной!
Запамятай:
Мой двор — мая дзяржава,
Мой сметнік — для мяне,
Ён — толькі мой!

Забудзь пра нашы спеўныя дэбаты —
Да скону дня,
Да хрыпаты штораз...

Згадаў сябе братоў сваіх дзюбатых,
А ўбачыў жа (даруйце, людцы!) вас.

Раз'ятраныя яваю няпэўнай
І заўтрашнім, што хоць за хвост лаві,
Не лезьце вы на ўцеху ўсім,
Як пеўні,
За сметнік біцца,
Біцца да крыві!

## Барахолка

Не краіна — барахолка,
Рэй вядзе рвача лямеш:
Дзе шкарпэткі,
Дзе іголка —
Па цане не разбярэш.

Вулкі — будкі,
Будкі — вулкі,
У аздобе, у красе.
Бы сабаку дражніць булкай, —
Дзеўка цыцкамі трасе.

Падыходзь, як з поўнай торбай
Тых паперак, што ў цане, —
Гаспадыня будзе добрай,
І цана не ўкусіць, не!

А кішэняю нямоглы,
Тых купюр не гаспадар —
Нават плітка жвачкі ўсохлай,
Як бульдог той, гыркне ў твар!

Вочы шчэрацца агідай,
Хоць даляр за ўсмешку дай.
Скуль наехала джыгітаў?
Гэта што ў нас, курултай?

Будкі — вулкі,
Вулкі — будкі.
Ад аздоб — не ласкавей.
Ад шнуркоў
Да прастытуткі —
За рублі,
За СКВ.

Спекулянтам на падмену, —
Хватку іх пераnялі! —
Пруцца ўсе
У бізнесмены,
Працаваць каму ж, калі?

Вечар гляне чорным сліўнем —
Як дамоў хутчэй зайсці?
Вочы зіркаюць пужліва,
Як «вавёркі» і «зайцы».

## З абмежаванай адказнасцю..

Не знайду я з уласнасцю яснасці,
Што нажыў быў —
Пайшло ў небыццё.
Таварыствам
З абмежаванай адказнасцю
Давяраць я павінен жыццё.

Ну а іх — як вірлівых мурашнікаў.
Што ім трапіць —
Не выпусцяць з рук.
А прыгледзішся зблізку —
Шабашнікі,
Не душа, а набіты капшук.

Я блукаю між іх, бы знявечаны,
Як не свой
На зямельцы сваёй, —
Апалячаны, анямечаны
І прыгнечаны «ласкай» чужой.

Шчасце ўсё — што падковай іржавую
Над жыццём,
Падкаваным нияснасцю,
Бо дзяржава ўжо стала —
дзяржаваю
З абмежаванай адказнасцю.

## Прадаю...

Збыў я дзедаў ордэн —
Сплыў ён з куфра ў свет.
Прадаю свой орган,
А які — сакрэт.

Ты не ў захапленні?
Што, тавар не той?
Прадаю сумленне —
Хто дасць болей, хто?

Сціпла раскашую —
Разбірае злосць.
Прадаю душу я —
Срэбранікі ёсць?

Цыгарэтным дымам —
Повязь з замяжой...
Прадаю Радзіму?
Божачка, няўжо?!

**Валюта душы**

Дзесьці ўрад распявае, як песню,
І чуваць з-за прыглушаных сцен:
«Індэксацыя ўкладаў,
Індэксацыя пенсій,
Індэксацыя цэн...»

А мо лепей бы, як на паверцы,
Нам правесці,
Пачаць з глыбіні —
Індэксацыю думак,
Індэксацыю сэрцаў,
Індэксацыю дабрыні?

Як даляр ні ашчэрваўся б люта,
А пачаць яе самы час:
Дабрыня ж —
Залатая валюта,
Нашых душ
Залаты запас.

Пры такой калатні,
Пры разводдзі,
Калі выйшла жыццё з берагоў,
Калі ўсе ачмурэлыя ходзім, —
Ці надоўга
Нам хопіць яго?

Я паверыў бы з радасцю, шчыра:
Хопіць!
Ды, як вужакі з глушы,
Паспаўзаліся рэкеціры...
Ці ўратуем валюту душы?

**Плятуць лапці..**

Сядзіць на ганку дзед Мікіта,
Не разгінаючы плячэй:
Шчыруе зранку самавіта,
Гарбее, лапці ён пляце.

Каб добра ўмеў —
Лягчэй плялося б.
Не быў бы босым —
Не гарбеў.
За лапці ўзяцца давялося,
Бо чалавек —
Не верабей.

Дзе ўзяць яе, абуўкі гожай?
Давёў жа нейкі абармот,
Што нават за галёшы
Трэба торба грошай,
А пенсіі — наплакаў кот.

Сусед зайшоў, сусед здзівіўся,
Вясёлы позірк пасумнеў:
— Калі ты плесці навучыўся?
Ты ж, добра помню я, не ўмеў?

Мікіта, пыхнуўшы цыгаркай,
Аборы ў лапаць прылучыў:
— Парламенту, суседзе, дзякуй —
Пад старасць хоць, ды навучыў.

О-о-о, дэпутаты шчыра дбаюць
Пра нас з табой, пра ўвесь народ:
Людзей у лапці абуваюць
Які ўжо дзень, які ўжо год.

Насіў бы з радасцю вялікай,
Каб кожны з іх трывала плёў.
Пляту я лапці, бачыш, з лыка,
Яны ж, разумнікі, са слоў.

**Па зніжаных цэнах**

І я— камерсант,
За прылаўкам стаю,
Ды ў сціпла абвешаных сценах.
Радкі на вагу
І ўраздроб прадаю,
Ды ў краме «Па зніжаных цэнах».

Занятак няўдзячны —
Знявага і муць,
Служыцелю муз не да твару.
Вяскоўцы па звычцы старой
зазірнуць
Ды здзівяцца шчыра тавару.

— У плуг, як каня,
Не ўпражэш твой радок.
Хоць вострьі,
А мала карысці.
Нам, браце, лапату,
Касу ці замок
Па-боску б купіць,
Як калісьці...

Стаю над радкамі —
Ніжэй сорам гне.
Ці ўдасца яго мне пазбыцца?
І мару, як тыя вяскоўцы:
«І мне,
І мне б на лапату узбіцца...»

Узімку злачынцы ўчынілі разнос,
Замок узламаўшы на дачы.
З іх нехта й лапату
Прадбачліва знёс, —
І гэтым ушчэнт азадачыў.

І я — камерсант,
За прылаўкам стаю,
Але ж ці зраблюся багатым?
Радкі на вагу
І ўраздроб прадаю:
Мо выручу хоць на лапату?

## Усё — краты..

Парта-краты,
Дэма-краты...
Глянеш збоку — мір не вечны:
Б'юцца лбамі,
Як салдаты,
Алавяныя, канечне.

Дэма-краты,
Парта-краты...
Пахвала свабодзе ў модзе.
І там — «краты»,
І тут — «краты», —
Выбірай, што лепш, народзе!

## Разборкі

Згніўшы, лопнулі аборкі,
Развязалі рукі нам.
Дзе быў мір —
Ідуць разборкі,
Воля бронекулакам.

Разбіраюцца суседзі —
Мала стала ім зямлі.
Плуг даўно
Ржавее недзе,
Аўтаматы ўжо ўзялі.

Лоб у лоб —
На шайку шайка,
Камерсанты, рэкетня.
Каб яшчэ хто не ўмяшаўся
Не бывае, пэўна, дня.

Каб крывёю разлічыцца,
Б'юць ва ўпор,
З засады б'юць.
І ахвяры і злачынцы
Богу душы аддаюць.

Ці нядбайла, ці руплівы —
Знай загон свой,
Не крыві.

Знай адно: за «сферы ўплыву»
Трэба біцца да крыві!

І мяне ўцягнулі ў зваду,
Бой са мной
Урад вядзе:
Прынясу зарплату ў хату —
Адбірае ў той жа дзень!

## Інфляцыя

З ёй цягацца не бярыся —
Вольна ёй з усіх бакоў:
Правяла адлоўку «рысяў»,
Правяла адстрэл «ваўкоў».

Шкуру ўраз з «мядзведзя» здзёрла,
Рогі збіла ўслед «зубрам».
«Зайца» ж, беднага,
прыпёрла —
У пятлю ён скочыў сам.

Дзе ж ты, колішні «звярынец»?
Ты ж нас радаваў спярша!
За табой пайшлі мы ў рынак,
Ну а вынік — ні шыша!

Як на д'яблавых іспытах,
Б'юць па нас кувалдай цэн.
Мы — жывыя,
Ды не збіты
І ў інфляцыі прыцэл!

## Канчаткі

Індустрыялізацыя, калектывізацыя
Нас бралі калісь пад ружжо.
А сёння .—
Інфляцыя, ваўчэрызацыя, —
Канчаткі вядомыя ўжо.

Канчаткі вядомыя —
Новыя прызмы:
Выкідвае конікі час!
Згадайма:
Яны, бы і ўсе тыя «ізмы»,
Як палі, ўбіваліся ў нас.

Хто думаў,
Што ўдосталь праз іх пабядуем
І мару звязём на пагост?!
А верылі ж слепа:
На іх пабудуем
У светлую будучынь мост.

Ды нешта канчаткі
Не ў дружбе з дастаткам —
Мы голыя, як лузанцы.
Зноў новыя словы —
Старыя канчаткі...
Няўжо хутка будуць канцы?

## Грабаўнікі

Часіна настала —
Не перадыхнуць.
Сумленне даўно пад адхонам.
Украўшы — нясуць,
Украўшы — вязуць,
Хто — торбаю,
Хто — вагонам.

Часіна настала —
Ужо не заснуць,
Карціць як паболей украсці.
Той з думкаю:
Заўтра б чагосьці куснуць,
А той —
У хароміну ўкласці.

Каб нешта займець,
Не адстаць ад усіх,
З маленства ўжо вучацца хлопцы
Знікаюць талеркі,
Адзін на дваіх —
Відэлец у школьнай сталоўцы.

Як тут утрымацца,
Калі шмат гадоў
Дзяржава сама не драмала:
Не толькі бабуль іх,

Не толькі дзядоў —
Да нітачкі ўсіх абабрала!

Жыццё ў нас настала —
Адна каламуць...
Ці склад,
Ці дзетсад,
Ці палетак калгасны —
Грабуць і нясуць,
Грабуць і вязуць:
«Не злодзей?
Які ты няшчасны!»

## Пярэварацень

Бурчыць на кожным кроку: «Камунякі...»
Грабе на свет
З мінулага мякіну.
Не «сіні», не «чырвоны» ўжо —
Ніякі,
Адно на мітынгі хадзіць не кінуў.

Б'е ў грудзі: «Я ні ў чым не вінаваты.
Такі быў час, а з ім — свае парадкі...»
І з «партакратаў» лёгка ў «дэмакраты»
Пераступіў, нібы на градку з градкі.

Няўцешна рады: «Што было — ўсё ззаду!»
Здаў партбілет
Яшчэ тады, тым летам...
Але чамусьці не здае пасаду,
Што атрымаў калісьці
З партбілетам.

## Лавіся, рыбка!

Пустэльна ў душах, крамах,
Як нітка, усё ліпіць.
«Каб выжыць,
рыбку самі
Вучыцеся лавіць...»

Пачуўшы раду слушную,
Каб мець навар які,
І я, прафан, быў змушаны
Падацца ў рыбакі.

Змастачыў неяк вуду —
Курам на смех, няйнакш.
Але ж вучыцца буду:
Ён раіў, спікер наш!

І, змогшы боль у шпорах,
І я прышпарыў крок
Ды Рыначнага мора,
Ці проста —
На ставок.

Да берага прытупаў —
Не праштурхацца, не!
Хоць стой, як дурань, слупа
Усім не да мяне.

Усім я — лішні сведка...
Пра ўласны дбаюць стол:
Той — з невадам,
Той — з сеткай,
Вайсковец —
Цягне тол.

Дзядок збывае восці —
І ў гэтым бізнес ёсць.
Хто з вудай —
Мала штосьці,
Бо з ёй ты тут —
Як госць...

Навучаныя змалку,
З уважнасцю такой,
Як нейкі скарб,
прыманку
Трымаюць пад рукой:
Той — чарвякоў вяртлявых,
Той — кашу,
Той — гарох.
А нейкі туз — малявак
Прыцёг: «Злаўлю за трох!»

Яго разлік дакладны —
Шчупак глыне ці сом!
А раз улоў прыватны,
Навар такі —

Не сон!

Вірыць ставок, бы ўз'юшаны,
Абшнараны да дна.
Вада ў ім —
Нібы ў лужыне,
Вада ўжо —
Муць адна.

Ды ловяць, ловяць слепа,
Нікому не баліць.
А можа, так і трэба:
У мутнай —
Лепш лавіць?!

Той рады ў пляшцы клёку,
Той — рады галаўню...
А я на рыфму збоку,
Што трапіцца,
Лаўлю.

Сачу, бы кот, за вудаю:
Ці ўздрыгне паплавок?
Сяджу,
Гляджу,
Пакутую —
Бы вымер мой ставок.

Сядзець няма ўжо сэнсу —
Які з мяне рыбак?!
Усе знайшлі кансэнсус —
Сярбаюць юшку ўсмак!

Лаўлю — ды ў думках — рыбку.
Надзеі промень згас,
Бо на жыўца —
На рыфму —
Хто клюне сёння ў нас?

## Замова за мову

Крычым-захліпаемся:
«Мовачка-мова!..»
Цалуем у думках,
Як маці, яе.
А гэтая мова —
Проста размова,
Да сэрца хто шчыра
Да рогу дае?

Як ёй, нібы з клеткі,
У кніжкі прабіцца,
Жаўронкам вясновым
Запець, узляцець:
Сіло папяровае —
Тонкае быццам бы,
Ды здолей жа вырвацца,
Волю займець!

З трыбунаў, у друку —
Праклёны, рыданні:
«Закон не працуе,
Нікому не ўказ!..»
Ці чуюць іх
«Дайджэсты» і «Эрыданы»?
Напэўна...
Ды толькі смяюцца ў адказ!

З дзялкамі падобнымі
Кашы не зварыш.
Забойствы і секс —
Залатое іх дно.
Што бедны багатаму ў нас
Не таварыш, —
Цяпер, як ніколі,
І дурню відно.

Спраўляюць жніво
Прайдзісветы-магнаты,
Па мове далярам,
Як цэпам, таўкуць,
Каб вылушчыць словы з яе,
Як зярняты,
І кінуць пад ногі —
Хай куры здзяўбуць!

Калі ўжо настане
Мяжа словаблуддзю?
Ці возьмемся шчыра:
«Акыш, «дзеячы»?
Мы ўсё ж — беларусы.
Не куры, а — людзі,
Хоць, пэўна, нямыя:
Крычым — як мычым.

## Рынак

Прапала кароўка — прападай і вяроўка.
Прымаўка

Пачую «рынак» —
Моднае ўжо слоўка —
І мне ўяўляецца адразу Камароўка,
Якую з.раем нават не зраўняеш,
Дзе ёсць усё,
Ды з голаду сканаеш,
Калі ў цябе ні «зубра», ні «лася».
«А як маеш грошы,
Дык і сам харошы...» —
Прыпеў адзін,
І песня ўся.

Тут плач ні плач —
Не знойдзеш суцяшэння,
Тут свой закон,
Што горай ад прыгону:
Гандляр цікуе
За тваёй кішэняй,
А рэкеціры зводдаль —
За ягонай.

Пачую «рынак» —
Уздыхну па Камароўцы,
Заб'ецца сэрца часта, неспакойна:
Не злодзей жа,
А я ў пятлі-вяроўцы —
У рынак цягнуць,
Як бычка на бойню!

Той — без прымусу,
Гэты — пад прымусам,
Здалёк надзеі ўбачыўшы іскрынку,
Як на пажар,
Праступоць беларусы:
Адзін — да рынку,
Дзесяць — па скарынку.

**Вольныя нявольнікі**

Хто вам сказаў,
Што я жадаў
Сустрэчы з ёй, саколікі?
Хто мне такую
Волю даў? —
Вольныя нявольнікі.

Я незалежны сапраўды
Ці гэта жарт свавольнікаў?
Адзін бядую
Тры гады, —
Вольныя нявольнікі.

Стаю з працягнутай рукой,
Смяюцца закардоннікі:
Хто ўсцешыць рыбкай,
Хто — луской, —
Вольныя нявольнікі.

Папер-дамоў
Растуць стагі.
Бюджэт усох,
Стаў кволенькі.
Даўгі —
Як пугі хвост даўгі, —.
Вольныя нявольнікі.

Даляр любуецца сабой:
Мацак, дубок зялёненькі!
«Зуброў» адправіў на забой, —
Вольныя нявольнікі.

Даймае холад,
Ды жвавей —
«Старэйшы брат» няўмольненькі.
Тупочам пад дуду завей, —
Вольныя нявольнікі.

Як дышаль той,
Што ні закон,
І гвалт, і здзек — супольнікі.
Закон сумлення —
Пад замком, —
Вольныя нявольнікі.

Раней быў страх,
А сёння — крах.
Я перад светам голенькі.
Штаны трымаю ўжо ў руках, —
Вольныя нявольнікі.

У душах — воўк,
У сэрцы — змрок.
Жыві, як выжыць здольненькі!
Жыццё —

Бы ўзведзены курок,
Вольныя нявольнікі.

Жабрак —
Сухар жуды грызі.
Спраўляюць баль накольнікі.
Свабода шастае ў рыззі, —
Вольныя нявольнікі.

## На адным канцэрце

Ці гэта манера з намерам,
Ці пошук набіў гузакоў:
Спявае хор «Зорку Венеру»,
А ўслухаешся — «Суліко»!

Ці гэта хімера, што ў сіле,
Ці хто наглытаўся віна:
«Лявоніху», чуў, аб'явілі,
А скачуць —
«Лезгінка», яна!

Дзяўчаты танцуюць —
Да пятаў каса.
А хлопцы гарцуюць —
«Ас-са» ды «Ас-са!».

Ці хто пахмяліцца забыўся,
Ці гэта ліхі перабор:
Скуль раптам у наскае ўбіўся,
Як рэха,
Той водгалас гор?

Хаджу, у артыстаў пытаю.
Смяюцца, а вочы — уніз:
— Фундатар, ён гэтак жадае
Шаноўны,
Вяльможны Тэнгіз...

**Восы ля піўларка**

Ля піўларка
Ад ранку кружаць восы...
Мо шэршняў тут вышукваюць сваіх,
Што паляцелі ў горад шматгалосы
Глынуць «нектару» —
Кроплю на траіх?

Тады навошта ж зграбныя назолы
Нахабна мкнуцца ў куфаль заглянуць?
А мо самім карціць,
Нібы расолу,
Хоць кроплю піва хмельнага глынуць?

Здзьмухнуць іх з пенай —
Адляцецца ж цяжка:
А можа, злым піўцам не ўсё адно?
Ці мо фарсяць:
«Нас мала, ды ў цяльняшках,
Нам па калена нават куфля дно!»

Чакаць няўсцерп:
Пагрозна завываюць,
Каб зналі тут,
хто гаспадар, хто госць.
Відаць, не дурні:
Нюхам адчуваюць,
Што ў ячмяні таксама солад ёсць!

Ля піўларка
Ад ранку кружаць восы,
Дзе гнёзды іх —
Забыліся зусім.
Не цягне ў сад,
Хоць груш у ім завозна...
Няўжо і іх нячысцік спакусіў

## **Певень на балконе**

На балконе, цесным і зашклёным,
Ён, як песні, радуецца дню.
На світанку
Над мікраараёнам
Будзіць сонца,
Будзіць цішыню.

Хоць за сеткай
вольнага спрадвеку
Лапатання крылаў не чутно, —
Як праменьчык сонца,
Ку-ка-рэ-ку
Залятае ў кожнае акно.

Ён гарлае, бы на плоце, звонка,
Каб журботу выспяваць да дна:
Курка Рабка,
Быццам тая жонка,
У яго ўсё лецейка адна.

Сумна,
без сутычак, без разборак —
Дзюбаю бетон ці дзеўбанеш?
Яшчэ горай —
На чужы падворак
Згэтуль, каб хацеў, не сіганеш,

Ці палоннік, ці курапаклоннік?
Але хто жаданнем не гарэў?
Цёпла, сытна пеўню на балконе,
Ды балкон утульны —
Не гарэм.

І яе шкада, сяброўку Рабку:
Як ні кліч —
З-за дроту не збяжыць.
І спатканні ў іх
па распарадку,
Лішні раз з такой
Не саграшыць.

Позіркам, журботай заімглёным,
Ён, як вязень, радуецца дню.
На світанку
Над мікраараёнам
Будзіць сонца,
Будзіць цішыню.

## Самасад

*Паэту-гумарысту Рыгору Яўсееву*

Тугавата што ні дзень з паперай,
Згалыцьбеў
рэдактарскі пасад.
Шэра ў думках,
У пакоях шэра,
Выдавецтва курыць самасад.

Каб на грошы ўзбіцца пакрысе як,
Ну а камерсантам даць пад зад, —
Сам Яўсееў
Самасад пасеяў,
Сам Яўсееў
Курыць самасад.

Як хлапчук, стуліўшыся ў закутку,
Смаліць, покуль пальцы прыпячэ.
Жук няўмела
Круціць самакрутку:
Малады, нявопытны яшчэ.

Гэта ж не вусы круціць-падкручваць,
Як гадзіннік кожнай раніцой,
Гэта ж не вучыць, а перавучваць
Мала ўсё ж цыгарчыны адной!

А папера? Слухалася б трошкі!
З ёй, як маг той, не паштукаваць.
З гэткай не скруціць «казінай ножкі»,
На ёй вершы толькі друкаваць.

Іскры быццам ад электразваркі
З іх цыгарак сыплюцца на дол.
Дымяцца цыгаркі,
Быццам скваркі,
Трэск смуродны
Чуецца наўкол.

Дзеўкі з «Юбілейнай» ды з «Планеты»
Вэрхал паднялі, учуўшы дым:
Уцякуць, учадзеўшы, кліенты,
Ці ж збярэш даніну, як заўжды?

У вачах Яўсеева хітрынка.
Як цыгарка, цепліцца пагляд:
— Пераходзім пакрысе да рынку,
Пераходзім, брат,
На самвыдат...

Каб пачуцца незалежна неяк,
Ну а камерсантам даць пад зад, —
Сам Яўсееў
Самасад пасеяў,
Сам сабе Яўсееў —
Камерсант!

**Бартэр**

Ці хто, дасужы, падвучыў,
Ці ўсё не так, ды ўбачыў:
І жонку бізнес падтачыў,
Як шашаль той, няйначай.

Ёсць міг жадання ў родных душ.
І я у хваляванні, —
Хоць дуж не дуж,
А ўсё-ткі муж, —
Абняў сваё каханне.

Каб не спужнуць, дышу раўней,
Да жоначкі хінуся,
Яна ж не ў лямант, як раней,
А тут жа — плясь мне... бусю!

Гуляюць рукі, хоць звяжы:
— Ты за мае пяшчоты
І мне аддзяч,
І мне ўслужы —
Купі «Шанель» ці боты.

Спачатку думаў — гэта ў сне.
Што ёй сказаць, упартай?
Ці ж па кішэні сёння мне
Такі гвалтоўны бартэр?

Сяджу, зажураны, як пень,
Ды чую голас Зосін:
— Ты прывыкай, мой целяпень,
Да рыначных адносін.

## Як стаць вегетарыянцам? (Горкі жарт)

Стаў бы вегетарыянцам —
Чуўся б лёгкім,
Чуўся б зайцам.
На капустах ды салаце
Ой здароўечка б падладзіў!

Гэтак доктар мне парадзіў...

Ды як стаць вегетарыянцам?
Стаць "мне ім —
Ніякіх шанцаў.
Накупляйся той капусты,
Накупляйся той салаты:
Купіш раз —
І стане пуста,
Не дацягнеш да зарплаты.

Цэны —
Толькі закачацца!
Пазіраю ласа:
Ці сабе купіць качанчык,
Ці сямейцы — мяса?

Змэнчаны, бы прымусоўкай,
Поснымі супамі,
Я не зайцам стаў, а воўкам —
Ляскаю зубамі.

## Пошасць

Бядуе бабуля,
На твары сляза —
Прапала каза.

Да ранку блукала,
Шукала,
Гукала:
Го-го-го, каза,
Дзе ты, шэрая?
Хто цябе дзе навязаў
Ці табой вячэрае?

Дарэмна шукала.
Дамоў прыблукала —
Нясушка прапала.

І плача старая
У дзве ўжо слязы:
Шкада ёй Чубаткі,
Шкада ёй казы.

Да ночкі блукала,
Шукала,
Гукала:
— Цып-цып-цып, Чубатка, дзе,
Дзе цяпер у госцейках?
Ці ў чужым сядзіш гняздзе,

Ці ўжо парыш косцейкі?

Пакуль зноў шукала,
Сцяжынкі таптала, —
Сабакі не стала.
Прысела на ганку,
Ні слёзкі з вачэй, —
Але ж ці лягчэй?

Магла б —
гэты свет
Раскрышыла б, здаецца,
Дзе крадзецца ўсё
І ўсё прадаецца!

Шукаці не стала,
Адно прашаптала:
— Дзе цяпер ты, Шарык, дзе?
За цябе маліцца як?
Ці ў будзé, як я ў бядзе,
Ці на дыбе ў гіцаля?

Ланцуг прыцягнула
Ад будкі пустой —
Навошта ён ёй?

— Не знойдзеш запораў,
Не знойдзеш замкоў
Ад пошасці гэтай —
Двухногіх ваўкоў.

Хай Бог пакарае
Хапуг-валацуг. —
І... хату старая
Ўзяла на ланцуг...

## Казка пра чорта-бежанца

У ціхім балоце чэрці водзяцца.
З народнага

У ціхім балоце,
У дзікім чароце
Жыў чорт, адзінокі, стары.
Руплівы, не прагны,
ён з чортавай багны
Смалу, як з мазуту, варыў.

Смалу, як вялося,
У пекла адвозіў.
Кіпела ў катлах — о-го-го!
Варыў без прынукі
Ўсім грэшным на мукі,
І чэрці хвалілі яго.

Адбыўшы радоўку,
Стары «багуноўкай»,
Бывала, душу весяліў.
Часцей жа — умела
З купчастых, даспелых,
Варыў з журавін кісялі.

У цёмныя ночы,
Прымружыўшы вочы,
Ён час з кісяльком каратаў.
Тужыў, што ніколі
На «чортавым коле»
Ніхто з чарцянят не катаў.

...Затрэсла тым ранкам
Дрыгву ліхаманка.
Ён выскачыў з багны на гаць.
Што ж гэта такое?
Кусты з асакою
Страшыдлы дзяруць — не стрымаць!

Балота канае:
Вада — у канаве,
Кудысьці ўцякае вада!
Сагнуўшыся крукам,
Чорт тросся ад груку,
Аглухлы, ён скеміў — бяда!

Заенчыў спачатку:
«Чаму чарцяняткам
Не страціў ні зрок я, ні слых?
Бы з голаду, прагна
Каўтнулі ўжо багну
Каўшы супастатаў стальных!..»

Стаяў бы ўкапаны,
Глядзеў, абакраны:
Абшар — бы прайшлася мятла!
Няма дзе старацца...

Застаўся без працы,
Застаўся (эх, чорт!) без жытла.

Счакаў адвячорка,
На кут свой з пагорка
Зірнуў яшчэ раз са слязой:
«Дзе вы, журавінкі,
Чарот мой, асінкі?
Ці ўбачуся з гэткай красой?

Раз гэтак прыпекла,
Спушчуся-тка ў пекла,
Там ведаюць: не дармаед...»
Спусціўся, блукае,
Ніхто не гукае,
Адно касавурацца ўслед:

«Скуль прыхадзень гэты?
А як ён адзеты?!
Чувагь, што адтуль, з-пад балот.
Хіба ён нам роўны!..»
Спыніў чорт галоўны,
Ашчэрыў, у золаце, рот:

«Тут, дзядзька, не швэндай,
СП ў нас, арэнда,
Тут кожны за месца дрыжыць.
Ты ж там, на балоце,
Прывык у галоце
Жыць змалку, жыць — як набяжыць

Табе, самавуку,
Маркетынг — у муку,
Рагамі яго не дапяць.
Камп'ютэрам, мілы,
Як стрэмка, дурнілы...
Дый што з цябе, лысага, ўзяць?..»

Ваўчком чорт круціўся,
Ён рожкамі біўся,
Ды толькі — насмешкі ў адказ.
Змарыўся, зміры ўся,
А дзе пасяліўся?
Не ў пекле, а ў душах у нас!

Ды як там уседзець,
Душу не вярэдзіць?
На гэта ён змалку мастак.
На пенсіі, шэльма,
Ды муціць, не дрэмле.
Прыгледзьцеся: хіба не так?

Без чортава зелля
Няма ў нас вяселляў,
Што робім — ні з чым не ўвязаць!
Карціць, ну хоць трошкі,
Нам чортавы рожкі
Адзін аднаму паказаць!

## Як жа без начальнікаў?..
## (З Паўла Глазавога)

Што б пра нас ні гаварылі,
Што б там ні казалі,
А па колькасці начальства
Мы ўсіх перагналі.
Есць начальнікі над тымі,
Што абед гатуюць,
Есць над тымі, што дарогі
Мосцяць, асфальтуюць.
Есць начальнікі над тымі,
Што жалеза плавяць,
Есць начальнікі над тымі,
Што будынкі ставяць.
Есць начальнікі над тымі,
Што ў цэхах працуюць,
Есць над тымі, што ў ансамблях
Гапака танцуюць.
Есць над тымі, што шчыруюць
На віяланчэлях,
Есць над тымі, што малечу
Круцяць ў каруселях.
Есць начальнікі над тымі,
Што фантаны ўзводзяць,
Есць над тымі, што паперы,
Як асот, разводзяць.
Есць усюды — у радзільнях,
На кладах тутэйшых...

І над кожным
начальнікам —
Есць яшчэ вышэйшы...

Не, што б там ні гаварылі,
Што б там ні казалі,
Па начальніках, браточкі,
Мы ўсіх перагналі.
Закругліць мне гэта можна
Думкаю такою,
Але знайце, што начальства
Есць і нада мною.

## Раней і цяпер

Раней, як мы ўжо бачылі,
Жыццё было ў нас хр-ру-свіннячае
Адно хапала дабрабыту, спрыту —
Таптацца ля свайго карыта.
З-за тлушчу,
З-за глухіх вушэй
Баяліся зірнуць
Далей, вышэй.

Цяпер. як усе бачым мы, —
Жыццё ў нас гр-р-сабачае:
Грызёмся да крыві, да зморы
За косці, што нам кідаюць
Лаўцы з-за мора.

Пытанне задаю спрадвечнае:
Калі ты прыйдзеш,
Чалавечае?

## На бабах!

На мяне су сед злуецца —
Абіваць парог пачаў.
А не так даўно, здаецца,
Ён хадзіў,
Ён пазычаў.

І ў паэта штось вялося,
А вядзецца — як не даць?
Браў на дзень,
Праз год прыносіў.
Што было — працэнты драць?

Мой сусед цяпер з грашыма.
Ён адчуў даляраў пах.
Муза ж,
Хоць і не зграшыла,
Засталася на бабах!

Патыкнуся, заікнуся,
Ён адразу ж намякне:
«Грошы падаюць у курсе,
Пазычаць растратна мне.
Робяць, пэўна, сёння ўсе так —
Грошы ж дзень пры дні «гарацць».
Індэксацыю з суседа,
Вер, няёмка ўсё-ткі браць...»

Гонар ціхенька ратую —
Дзверы шчэрацца мне ўслед.
Ды на Музу не крыўдую:
Муза — вечнасць!
А сусед?

## На выстайцы

Сусед ідзе на выстаўку,
А я за ім — на выстайку.

Ля гастранома, быццам цень,
Туляўся, меў надзею.
Бы ў тым звярынцы,
Розных сцэн
Нагледзеўся ў чарзе я.

Галодны, мяса я чакаў,
А кідалі мне косці.
Я сам гырчаў,
Я сам брахаў
Ад крыўды і ад злосці.

Дзіця чаргі, я не слабак,
Дзянёк прагойсаў цэлы.
Сусед дзівіўся на сабак,
А я — на цэны.

## Ячменны дух

Над гастраномам бліз вакзала,
Бы сцежку ўказвала ў піўсклеп,
Рэклама колісь люд здзіўляла:
«Пейте пиво — жидкий хлеб!»

Той «хлеб» у чэравах дубовых
З'яўляўся, быццам з даўніны.
Па ўсіх буфетах,
Па сталовых
Шукаў адхлання дух піўны.

Ды спраўся з ім у адзіночку —
Стрымай, адужай, прыручы:
Вулкан драмаў
У гулкіх бочках,
Стагналі клёпкі, абручы.

Шумела піва, ускіпала,
Бы ў донца кухля біў прыбой.
І кухляў для яго хапала,
І рыбкі вяленай, любой.

За стойкай стан заняўшы стала,
Любіла тлум, жартаўнікоў...
А колькі з-за яго адстала
На станцыях ад цягнікоў?!

Ніхто не скуб, прыпёрты смагай:
«Жывей, гад, кухаль вызваляй!»
...Стаю, адціснуты знявагай,
Той прэ з каністрай,
Той — з біклагай,
Той — цэлафан пхне: «Налівай!»

«Банкіры» лезуць — шкло мільгае,
Бы ў ганчакоў, слюняк цячэ.
Таўчэ ў хатыль цябе, штурхае,
А пікні — чэрап растаўчэ!

Піўбудкі — тыя ж сабакарні:
І гэты гаў,
І гэты кусь!
Што стала раптам з мужыкамі?
Не піва —
Соль на языку!

Казыча ноздры водар пенны,
Настрой грымотна-гарлавы...
Няўжо, бы з бочкі,
Дух ячменны
Павыбіў клёпкі — з галавы?

## Спяваюць трубы..

Ці спёка, хоць хавайся ў цень,
Ці дождж цячэ, ці снег сумётны, —
Спяваюць трубы
З дня у дзень:
Не дом — аркестр грымотны.

Спачатку дзесь далёка там —
Адна труба ўздыхне-прачнецца.
А ўслед за ёй у сотні гам —
Паўдома раптам адгукнецца.

Спяваюць трубы — скача стол...
Чаму ж настрой не ўзнёслы зранку,
Сёй-той — глытае валідол,
А я — п'ю валяр'янку?

Спяваюць трубы — і штораз,
Здаецца, глухну я ад грому:
Пад гэткі «спеў»,
Пад гэткі «джаз» —
Уседзь, гаротны, дома!

Спяваюць трубы —
Дзень вяшчуюць.
Шкада —
Сантэхнікі не чуюць.

## Баран у аптэцы
## (з Андрэя Дынніка)

Малодка Львоўна праз чыесьці чары
Пакутвала ў жыцці без пары.
Аж тут знайшліся два Шакалы,
Яны ёй пару падшукалі —
Злавілі Барана за рогі,
Што пасся ў лесе ля дарогі.
Сабралася ўся Львіная радня,
Гадала-думала паўдня:
«Пасаду Барану якую даць,
Каб на ўтрыманне ўласнае не браць?..»
І вырашылі: трохі прылізаць
І ў спіс надзейны запісаць,
А Леў аддасць загад,
Каб недарэку
Адразу ж прынялі ў аптэку.

Цяпер сядзіць Баран той у аптэцы
І ўсіх трымае ў небяспецы.

## Пакрыўджаны

Адных — хваліў,
Другіх — шарсціў
І бранзавеў заўчасна.
Дарогу на Парнас масціў
З цаглін-тамоў
Уласных.
На што паскардзіцца
ён мог?
Сам не трымаў у тайне:
«Адным мяне
Пакрыўдзіў Бог —
Вялікі талент
Даў мне».

## Заслужаны Барбос
## (з Паўла Глазавога)

Калісь Барбос, па звычаю сямейным,
Быў пры атары вартавым надзейным:
Ваўку старому,
Што ў кашару лез,
Ён горла перагрыз —
Той не вярнуўся ў лес!
Барбосу ласка, слава да нябёс,
Стаў у людзей
Пястунчыкам Барбос.
Ён курку з'еў, ён струшчыў кураня —
Яму ж ніхто ні слова, цішыня.
Ён качку ўкраў,
Задраў ён потым гуску
І прыхапіў галубку на закуску...
Даўно б знайшлася на яго рука,
Дык ён жа колісь задушыў Ваўка!

Вось так?бывае, робяць і хапугі,
Калі ў свой час
У іх былі заслугі.

## Трохзменка

Дзякуй, вецер перамен, —
У мяне трохзменка.
Бо мой мілы —
Бізнесмен,
А я —
Бізнесменка.

Ён зграбае «бабкі» днём,
Я ж —
І днём, і ночкай:
Ён гадлюе барахлом,
А я —
Перадочкам.

## Феерверк
## (з Пятра Рабра)

— Я Новы год, — сказаў Аверка, —
Сустрэў шыкоўным феерверкам!
— Дык добра, дружа!
— Ды не дужа,
Бо я забыў сказаць, Ігнаце:
Згарэў мой двор, з дабром у хаце.
— Пагана, дружа!
— Ды не дужа,
Бо застрахованы пажыткі:
Мне ўчора выплацілі збыткі.
— Дык добра, дружа!
— Ды не дужа,
Бо ў хаце, сваце мой харошы,
Згарэлі ўсе, што мелі,грошы.
— Пагана, дружа!
— Ды не дужа,
Бо не сказаў сакрэт табе йшчэ:
Капшук той быў не мой, а цешчын.
— Дык добра, дружа!
— Ды не дужа,
Бо цешча думала па свяце
«Аўтаарбу» прыдбаць мне, зяцю.
— Пагана, дружа!
— Ды не дужа,
Бо я, брат, правілаў не знаю,

Правоў, каб ездзіць мог, не маю.
— Дык добра, дружа!
— Ды не дужа,
Бо я правы, што бракавала,
Вер, мог бы выменяць на сала.
— Пагана, дружа!
— Ды не дужа,
Бо я ў той «Арбе» разбіўся б,
Пакольні ездзіць не вучыўся.
— Дык добра, дружа!
— Ды не дужа,
Бо я ўзамен на штуку гэту
Хацеў узяць тваю кабету.
— Дык добра, дружа!
Добра, сваце! —
Ігнат падскочыў цалавацца.
Закончым нудную гамонку:
Аддам і без машыны жонку!

**Даспяваліся**
**(з Івана Неміровіча)**

Першай нотай — нота ДО.
За губу не ўзяў ніхто.
А другою — нота РЭ.
Нас паўлітра не бярэ.
Трэцяй нотай — нота МІ.
Зразумела ўжо самім,
Што за гэтай — нота ФА
І што літр на двух — лафа!
Пятай нотай — нота СОЛЬ.
Моцна стукнуў алкаголь.
Шостай нотай — нота ЛЯ-
Захісталася зямля.
Сёмай нотай — нота СІ.
Дзе стаянка, дзе таксі?
ДО-РЭ-МІ-ФА-СОЛЬ-ДО-РЭ.
Хто на нас гарляк дзярэ?
ДО-РЭ-М1-ФА-СОЛЬ-ЛЯ-С1.
Прабачэння ў нас прасі!
Хто ты ёсць, спытаць дазволь,
Недарэзаны БЕМОЛЬ?

...Гэтак мы «сальфеджавалі»
І раўлі, нібы валы,
Покуль не «адгазавалі»
Нас дружыннікі-арлы.
І цяпер бульвар сталічны.

(Дзе былы запал, фасон?)
Мы, салісты-вакалісты,
Падмятаем ва ўнісон.

## Налівайка і Закусіла
## (з Алеся Жалдака)

Намерваўся да свят Даніла Дзяцел
І скласці печ,
І пасяліцца ў новай хаце.
Наняў машыну,
Заадно й падводу
І да цагельні рушыў у суботу.
Знайшоў кладаўшчыка,
Дарэмна не таптаўся,
Падаў нарад,
Пра цэглу запытаўся.
А кладаўшчык Вярцікруціла
Хітруе нешта,
Круціцца, як шыла:
— Браток, паводле гэтага нараду
Я цэглы выдаць не магу са складу.
— Чаму ж?
— На ім, каб аніхто не мог прыдрацца,
Яшчэ ўдваіх павінны распісацца...
— А хто? — спытаўся здзіўлены Даніла.
— Ды Налівайка й Закусіла.

# ЯК ПОБАЧ ТЫ,
# альбо
# ОЙ АРЭХІ-АРЭШАЧКІ !

* * *

З упартасцю глухога ды сляпога
Сячом, як павялося, з-за пляча.
Зноў раптам дружна ўкленчылі прад Бога
Нібы не мелі бога —
Ільіча.

Маліліся ж, глытаючы абразы:
Абраз адзін быў.
Думалі — навек.
Не веру, што «прозрели» ўсе —
Адразу —
І прэзідэнт, і атамшчык, і зэк.

Шукаючы выгодаў, як прычасця,
Спяваючы на мове, нам чужой,
Нябесных і зямных ці не зачаста
Багоў мяняем,
Крывячы душой?

Прыгладзіўшы былое, як маршчыны,
Не ў Маўзалей,
У храм стаю ў чарзе...
Хто хітры,
Хто ілжывы,
Хто няшчыры —
Ён, Божа, бачыць, —
Памятайце ўсе!

* * *

Шкада «афганцаў»
З іх кляймом: «Забойцы!»
Шкада да болю
Сумных мацярок.
«Чым вінаваты сын,
Чым вінаваты хлопцы?» —
Здаецца, чую
На папрок — папрок.

З трыбун грызуць іх,
У пад'ездзе хаяць:
Куснуць, зняславіць —
Што цяпер прасцей?
А іх жыццё —
Адны не прасыхаюць,
Другім каляска —
Жонка і пасцель.

Шкада «афганцаў» —
Хто загоіць шрамы?
Радзіма, што ўручала аўтамат
Парушыла прысягу
Першай самай —
На полі бою кінула салдат

Пад гімнасцёркаю —
Шчытом іх і забралам —
Смылела сэрца
Ад бяссілля й ран.
А ці балела сэрца ў генералаў,
Як іх, бы ў прысак,
Кідалі ў Афган?

Гуляюць плёткі,
Як аўчаркі злыя,
Каб іх, «афганцаў»,
Праз гады дагнаць...
Даўно ў зямлі
Іх маршалы былыя,
А ім за ўсіх
Крыж несці і стагнаць...

Шкада хлапцоў,
У трыццаць — ветэранаў.
За чаркаю збяруцца,
Як радня —
Есць ордэны,
Ёсць подзвігі,
Есць раны,
Ды дзе ты,
Радасць перамогі дня?

* * *

Зноў дзянькі вясновыя насталі,
Прычакалі жаўрукоў здаля.
Пара ўецца з баразён густая.
Як араты,
Дыхае зямля.

Зноў дзянькі цяплейшыя насталі,
Ды куды ты, радасць, уцякла?
Не дабрэй,
А злей чамусьці сталі,
Ні дабра у сэрцы,
Ні цяпла.

Быццам сталі лішнімі ў сусвеце,
Шашалем нішчымніца грызе:
Нас кусаюць цэны,
Мы ж — суседзяў
Па кватэры,
Па трамваі,
Па чарзе.

Зноў дзянькі лагодныя насталі,
Ды баюся: раптам награшу,
Як надзеі воблачка растане,
Чорнай хмарай
Запаўзе ў душу.

* * *

Ляжыць зямля —
Зялёная, шырокая.
Ляжыць зямля —
Як сонцу атуліць.
Ляжыць зямля —
Азёрна-сінявокая.
Ляжыць зямля,
Што ўсім крычыць: «Баліць!

Я крык пачуў —
Нібы ступіў у прысак.
Я вусны сцяў,
Каб стогн стрымаць сілком,
Бо ў гэтым крыку —
Плач сірот-калысак
У роднай вёсцы...
Там...
Па-над Сажом...

## Капялюш

*У вянок Анатолю Грачанікаву*

Сусед шчыруе каля дачы…
Чаўнок яго капелюша,
Цябе здалёк, бывала, ўбачу —
Святлела, летнела душа.

Дарунак здатнага джыгіта,
Ты ўсіх здзіўляў,
Трымацца ўмеў,
Ды так фацэтна, самавіта,
Бы ўсё жыццё на ім сядзеў.

Здавалася, і стэп кіргізскі
Не дзесьці там,
А тут ён, блізка…

Шаноўны ім, здаля прыкметны,
Пад небам сінім, ды чужым,
Па сонцы ты,
Па спёцы летняй
Не сумаваў з ім,
Не тужыў.

Як зух, на вуха злёгку збіты,
Ты з ім смяяўся,
Не спадаў.
Аб тым, што станеш знакамітым,
Не думаў, пэўна,
Не гадаў.

А дождж знянацку набягаў —
Як дашак,
Ты засцерагаў.

Каб стому хмаркай дыму сцерці,
Ты з ім садзіўся на парог…
Чаму ж ад болю нашы сэрцы
Ты, капялюш,
Не засцярог?

…Сусед прыехаў, ён на дачы?!
Чаўнок яго капелюша
Я каля дачы зноўку бачу?!
Жыве ўсё ж спеўная душа?!

А гэта ён, унучак Толік,
Нырнуўшы ў дзедаў капялюш,
Злятае з горкі,
Як саколік…
О капялюш, ты —
Роднасць душ!

* * *

Сівы даўно,
Ды ў памяці, бы ў сховах,
Як лемантар агорваў па складах,
Як ляскаў пугай —
З бацькам гнаў каровы,
Як першае цяпельца раскладаў.

Здаецца, зноў я
Напярэймы джгаю:
Зыкуе статак, пуга ўжо — не ў страх!
А пуга тая,
Быццам дрот, тугая,
Сцябае ўсмак,
Ды па маіх нагах.

Здаецца, зноў
Гарну я бульбу ў прысак:
Яе адведаць — гэта ж казка, сон!
Здаецца, зноў
Салодкі чую прысмак
Абсмажаных расцёртых каласоў.

Ды ўсё ж чаму
Бяспамяцтвам здзіўляю,
Бы ўжо не голаў, а качан нашу:
Хваліў нядаўна —
Зараз толькі лаю,
Сказаў учора —
Сёння забываю...
А мо няпраўда:
Помню — ды грашу?

Пячы, спамін, жарынкаю гарачай
З цяпельца, што расклаў упершыню!
О, дай мне, Божа,
Памяці дзіцячай
На ўсё, што сёння,
Стомлены, чыню!

## **У трох соснах**

Мне сон прысніўся,
Сон дзівосны:
Купаўся ліпень у смале,
Я заблудзіўся
У трох соснах —
Ісмех і грэх...
Але, але...

Куды ні кінуся ў адчаі —
Дык натыкнуся на сасну!
А сосны стоена маўчалі,
Маўчаў прасцяг,
Бы ён заснуў.

Гукаў я — рэха рагатала,
Нібы гулялася са мной...
Зноў раптам ціха-ціха стала,
Крычу, заву —
Яно ж растала,
Ні гуку ўжо
На голас мой!

Адно — б'е ў грудзі водар смолкі.
Жывіцы дух —
Хоць пі вазьмі.
Адно — сасонкі,
Тры сасонкі,
Як змоўшчыцы,
Перад вачмі...

І — прасвятленне, прасвятленне!
І — расступіўся круг лясны.
І — знікла стрункае здранцвенне.
І — заспявалі тры сасны.

Стаяў, знямелы і здзіўлёны,
Перад парогам хараства.
Глядзеў на свет,
Як лес, зялёны,
У сонцы ўвесь,
Як сінява.

Ступала ранне маладзіцай —
Туман да ног
Дарожкай лёг...
І варта, можа, заблудзіцца,
Хаця і ў сне,
У соснах трох?

* * *

*Памяці Міколы. Дарашэнкі*

Снягі змяніліся дажджамі,
Марозы згінулі нібы.
Зайшоўся звонкі смех слязамі —
Слязамі горкімі журбы.
Пабраўся снег у чорны колер.
Зноў чысціню б яго адчуць!
Грымяць дажджынкі: «Ко-ля... Ко-ля...»
Не ў мёрзлы дол —
У сэрца б'юць.
Здаецца, боль прыняўшы блізка,
З табою гэты свет знямеў:
Ты ж так любіў яго з калыскі,
Ты ж так яму ўсміхацца ўмеў!
Хто ж падсцярог на ўзмежку ночы,
Не даў сустрэць усмешку дня?
Каму, скажы, ўкалола вочы
Душы шчырэйшай дабрыня?
Няўжо, як ёсць,
Няўжо ніколі
Не падасі рукі жывым?..
Смуткуе неба: «Ко-ля... Ко-ля...»
Балюча мне,
Балюча ўсім.

## Чысціня

*Міколу Маляўку*

Пад наваголдзе снежыцца —
Ёсць чысціня ў прыроды.
Твая сцяжынка-сцежачка —
Ад гэтае нагоды.

Адсюль твой след праходзіць,
Адсюль твой след бярэцца:
Ад чысціні ў прыродзе —
Да чысціні — у сэрцы.

Пад беллю, пад завеяю —
Чысцее свет утульней.
Адно шкада, што менее
Іх на зямлі, матуляў.

Дзе сцежка — дрэмле жыта.
Дзе хата — ціш ды замець...
Што сэрцам не пражыта —
Мінуй радок і памяць!

* * *

Абноскі з шафы дастаю,
Вачмі пераніцоўваю.
Над імі ў роздуме стаю —
Не ў модзе кумачовае.

Як болю, зведаўшы маны,
Нібыта ўваскрасаю,
І ўжо душу,
Як рызманы,
Кручу,ператрасаю.

* * *

Здурнелі людзі і прырода?
І ў тых,
І ў гэтай —
Вывіх свой:
Свабода —
Есці ж ой ахвота,
Зіма —
Разводдзе ж, як вясной.

Бы ў каламуць,
У спрэчкі ўвязлі,
Разлад ва ўсім
Пятлёй здушыў...
Па слоце хлюпаем,
Як вязні,
Каб заглушыць усхліп
Душы.

* * *

*Прысвячаю Г. І. Ч.*

Мне ўсё цяжэй
Табе глядзець у вочы —
Там болей стала суму, чым святла.
Хто засмуціў,
Хто раптам іх сурочыў,
Украў усмешку, што,як бэз,цвіла?
З-пад веек гляне ўсмешка, як з-за крат...
А можа, сам я ў гэтым вінават?

Мне ўсё цяжэй
Цябе, гарэзу, слухаць —
Твой голас то ўскіпіць, то задрыжыць,
То гнеў праб'ецца ў ім,
То ўсхліпне скруха:
«Што гэта будзе?
Як далей пражыць?..»
Хто з нас чакаў, што будзе столькі страт?..
А можа, сам я ў гэтым вінават?

Мне ўсё цяжэй
Абняць, сказаць: «кахаю» —
Затузаная чэргамі, быццём,
Адно маркоцішся,
Адно ўздыхаеш,
І ў сон упаўшы, нібы ў забыццё.
Дзе рук вязьмо? Дзе тое «дзеўка-хват»?..
А можа, сам я ў гэтым вінават?

Мне ўсё лягчэй
Цябе пакрыўдзіць словам,
Што вырвецца, як з кратэра, з грудзей
І апячэ, бы сцюжа —
Цвет вясновы,
Ускалыханы завяззю надзей.
Прабраўся ў словы холад, як у сад...
А можа, сам я ў гэтым вінават?

Мне ўсё мілей
Тваёй душы пяшчота —
Дачцэ і сыну гэтулькі б яе!
Як побач ты —
Далёка адзінота,
Як побач ты —
Лёд крыўдаў растае.
Як побач ты —
Душа спраўляе свята...
І ў гэтым, можа, ты ўжо «вінавата»?

* * *

Колькі выслухалі начэй!
Колькі выглядзена ўжо зорак!
У глыбіні тваіх вачэй
Дай нырнуць,
Нібы ў мора.

Дай адчуць, быццам хваль усплёск,
Кос тваіх калыханне.
Сінь вачэй —
Майго лёсу плёс,
Сінь вачэй —
Чысціня кахання.

Я ўглядаюся ў іх — няўжо?
Я ад шчасця нямею:
Вось нырну
І не вынырну ўжо, —
Дзякуй, лёс мой,
Што плаваць... не ўмею!

## Арэхі-арэшачкі

Мне не забыць тых дзён уцехі,
Той жнівень, шчодры, залаты:
Мяне ў ляшчыннік па арэхі
Вадзіла ты, вадзіла ты.
Люляла рэха адгалоссе
На голлі, што з табою трос:
Арэхі стукалі — здалося
Вясёлы град сышоў з нябёс.

Ой, арэхі-арэшачкі,
На сцяжынцы, ля сцежачкі!
Зверху падаюць, падаюць,
Вочы радуюць, радуюць.
Сонца нізенька-нізенька,
Рукі блізенька-блізенька,
Рэха коціцца, коціцца —
За арэхам арэх.
Сонца нізенька-нізенька,
Рукі блізенька-блізенька,
Рэха коціцца, коціцца —
Твой гарэзлівы смех.
Збіраю рэха ў берасцянку,
А ты насмешліва глядзіш:
«Ты ж бачыш — спалены маланкай,
Пусты і горкі твой спарыш...»
А я яго ў далоні гушкаў,
І я смяяўся на той час:

«Ці ж не падказ, што сын з дачушкай,
Што двое дзетак будзе ў нас?..»

Ой, арэхі-арэшачкі,
На сцяжынцы, ля сцежачкі!
Зверху падаюць, падаюць,
Вочы радуюць, радуюць.
Сонца нізенька-нізенька,
Вусны блізенька-блізенька,
Рэха коціцца, коціцца —
За арэхам арэх.
Сонца нізенька-нізенька,
Вусны блізенька-блізенька,
Рэха коціцца, коціцца —
Твой гарэзлівы смех.

Я той спарыш — дарунак рэха,
Як талісман з сабой насіў.
А што за смак з такіх арэхаў —
З гадамі толькі раскусіў.
Ды не злую, хоць не да смеху,
Калі ты ў гэтай сумятні
Мне «падсыпаеш на арэхі»,
Як на ўспамін пра тыя дні.

Ой, арэхі-арэшачкі,
На сцяжынцы, ля сцежачкі!
Зверху падаюць, падаюць,
Вочы радуюць, радуюць.
Сонца нізенька-нізенька,
Сэрцы блізенька-блізенька.
Рэха коціцца, коціцца —
За арэхам арэх.
Сонца нізенька-нізенька,
Сэрцы блізенька-блізенька,
Рэха коціцца, коціцца...
Дзе ён, даўні твой смех?

* * *

Ступіў на мох —
Абвяў чарнічнік.
Ці падалося гэта мне?
А мо за лета яму прывычна —
Наступіць нехта,
Хтось прыгне?

На дол скаціліся расінкі
Ці ўпалі ягады слязой?
Збіраю...
Жмені поўны сінькі
Халаднаватай і жывой.

Галлё зачэпіш ненарокам,
Дык ягады — дажджом густым!
Нібыта лівень-зух з падскокам
Прайшоў уподбежкі па ім...

А ці ж не так з людзьмі выходзіць?
Ад крыўд і нас не затуліць:
Няўзнак зачэпіш аднаго ты —
Другому раптам забаліць!

## Залаты дождж

Як дзяўчынка, ходзіць лета —
Басаногж ды басаногж.
Мора сонца, мора кветак...
Ты чаму самотны, дождж?
Ты чаму з нябёс глыбокіх
Мне свой цёплы сум прынёс?
За акном — твае ўсё крокі,
За акном — разводдзе слёз.

Дождж, слязам тваім не веру,
Я не веру, што ты — шэры.
На цябе дзіўлюся: ты,
Як і сонца, залаты.
Я з табою цуд зрабіць магу —
Я слязінкзй светлай прабягу
Па шчацэ зажуранай з вачэй...
Не спяшайся, дождж,
Ідзі званчэй!

Не тужы, мая дзяўчынка,
Не ўглядайся, не ўздыхай.
Не чапай слязу-дажджынку,
Па шчацэ бяжыць няхай.
Ты ж, відаць, яшчэ не знаеш,
Звонкі слухаючы шум:
За акном — мой дождж блукае,

На тваёй шчацэ — мой сум.

Дождж, слязам тваім я веру,
Ды не веру, што ты — шэры.
На цябе дзіўлюся: ты,
Як і сонца, залаты.
Я з табою цуд зрабіць магу —
Я слязінкай светлай прабягу
Па шчацэ да вуснаў дарагіх...
Дождж, не стукай,
Не спалохай іх!

## Сваццця

У людзей на зямлі
Ёсць пасад багата.
А былі хоць калі
На пасадзе свата?

Рэй вяду,
Грамаду
Чаркай не мінаю.
Хто наняў тамаду?
Хай не замінае!

Я раздам шчодра сам
Жартаў поўны клунак.
Па кілішку —
Гасцям,
Сваццці —
Пацалунак.

Мне б ручнік падаўжэй
Вось і ўсё багацце.
Ды за ўсё даражэй
Не ручнік,
А сваццця.

Сваццю ўкрасці не дам
Ні ў двары, ні ў хаце.
Я ручнік свой прадам

За яе,
За сваццю.

А найлепш — пад замком
З ёй у клець схавацца.
Ліха з ім, з ручніком!
Дзе ты, дзе ты, сваццця?

Жонка, ты не цікуй —
Муж яе цікуе.
Эх, цікуй не цікуй —
Сваццю пацалую!

Стаць бы зноў халастым,
Хіба ж я пярэстар?
Стаць бы мне — маладым,
Ну а ёй — нявестай!

Сваццця, сваццця,
          мне няўцям,
Што за чары маеш:
Усміхнешся ты гасцям —
Чарка замірае.

Стала горкім віно.
Дзе ты, сваццця-зорка?
Я чакаю даўно,
Што нам крыкнуць: «Горка

Сваццця-свацейка, ты
Ад чужога вока,
Ад сваёй пекнаты
Не ўцякай далёка!

Сваццця-свацейка, ты
Для душы — як свята.
Мы ж радня, мы ж сваты,
Пашкадуй жа свата!

**Сербіянка**

Яшчэ не скончана гулянка,
Як веснаход, не адгула.
Эх, сербіянка, сербіянка,
Выходзь на хату з-за стала!
Што з галавой бяда — не вохкай,
Што галаве цяжэй — забудзь:
Нагам жа лёгка, лёгка, лёгка,
На крылах быццам бы нясуць!
— Сербіянка, сербіянка,
Дзе ты прамачылася?
— Вакол саду я хадзіла,
Танцаваць вучылася.
Грай, гармонік,
Сып шпарчэй —
Стане ножкам гарачэй!
Грай, гармонік,
Не зявай,
За нагамі паспявай!
Адчайна ў шыбах вечаровых
Праменьчык бліснуў і пагас.
Эх, не шкадуй абцасаў новых —
Жывём на свеце толькі раз!
Сядзяць дзяды як на іголках —
Былі ж у скоках ліхачы!
Эх, сербіянка, як і полька,
Давай жыві, давай скачы!
— Сербіянка, сербіянка,
Дзе ты загулялася?
— Янку звечара сустрэла,
З ім прамілавалася.
Грай, гармонік,
Сып шпарчэй —
Стала ножкам гарачэй!
Грай, гармонік,
Падпявай,
За нагамі паспявай!

* * *

Загарэлі, пагляджу, рабіны.
Іх загар —
Пунсова-залаты...
На падворку вэрхал вераб'іны:
Чуюць восень,
Чуюць халады.

Дзіва з іх, як мітусліва скачуць.
Адчуваю:
Восень і ў мяне.
Ды ці ж цвыркаць, быццам ад няўдачы?
Ды ці ж мітусіцца мне?

* * *

Лісце з таполяў
Ляціць да зямлі,
Кружыцца, кружыцца...
Пэўна, у гэту пару пачалі
Восень з зімою
Дужацца.

Ветры — узагрудкі,
Аж гудуць,
Гэтак тузаюцца, упінаюцца.
Да качаноў на граду,
Як на дыван,
Куляюцца.

Гэтак счапіліся —
Не разагнаць.
Рыззе — з апратак прыгожых.
Іней жа лёг,
Не спяшае ўцякаць —
Знае ўжо, хто пераможа.

**Мост**

Пад цёплым покрывам начы,
У ззянні месяцавых рожак,
Аб чым ён думае, аб чым,
Што ў гэты час яго трывожыць?

Пахмурны, локаткі парэнч
У цемры выставіўшы ўгору,
Рачулкі срэбраны карэц
Ён падае увішна зорам.

І тыя п'юць ваду і п'юць,
На мосце тоўпяцца начамі.
Танцуюць — дошкі аж гудуць,
Парэнчы аж рыпяць з адчаем.

Вачмі страляюць навакол,
Палошчуць ногі ў ціхай плыні.
А ранак прыйдзе — талакой
Хаваюцца у водах сініх.

У лад ён грому прагрыміць:
«Хто затрымаўся, не праехаў?»
І над ракою праляціць
Наўсцяж,
Збудзіўшы ранак,
Рэха.

Пад рып вазоў, пад чаіц крык
Насустрач дню ён прагрукоча:
Жыць у напружанні прывык
І расслабляць спіны не хоча.

## Памылка

Памылка дорага каштуе,
Яна як цяжкі груз вісіць.
Яна гадамі мозг свідруе
І ў памяць б'е,
Ажно баліць.

Няма ніякага адхлання,
Калі сумленны чалавек,
Ноч — не заснеш,
А прыйдзе ранне —
Зноў тое ж, тое ў галаве.

Хтось часам можа ўгледзець
Слабасць,
Неўраўнаважанасць тваю,
Бо не сваю —
Памылку сябра
Прымаеш блізка,
Як сваю.

А я ж падчас яшчэ ў памылках
Імкненне бачу,
Адкрыццё:
Памылка —
Тоненькая жылка,
Што цягне за сабой
Жыццё.

## Вяртанне

*Кампазітару Эдуарду Казачкову*

Пад сцішана-роздумны водгалас грому
І ўсплёск веснавых навальніц,
Як птушкі,
Вяртаюцца песні дадому —
Да родных бароў і крыніц.

Туды, дзе іх неба,
Дзе ўсё ім знаёма,
Дзе рады сустрэць, прытуліць...
Як птушкі,
Вяртаюцца песні дадому,

Каб сэрцы сабой акрыліць.
Каб дома, забыўшы вандроўную стому,
Звінець,
Узлятаць,
Трапятаць!..
Як птушкі,
Вяртаюцца песні дадому,
Каб лёсам,
Каб вёснамі стаць!

**Змест**

**І смех і грэх, альбо Баран у аптэцы**



**Як побач ты, альбо Ой, арэхі-арэшачкі!..**

**Чарняўскі М.**

У трох соснах…: Сатыра, гумар, лірыка. — Мн.: Маст, літ., 1996. — 111 с.

ISBN 985-02-0298-X.

Калі вам часам засумуецца, настане нудзьга́ — разгарніце гэтую кнігу і памылкі не зробіце. «У трох соснах…», чарговым зборніку сатыры і гумару Міколы Чарняўскага, усё толькі вясёлае, дасціпнае, з гуллівай смяшынкай. Разам з тым аўтар прапануе сваім чытачам і нізку цікавых лірычных вершаў.

Ч 8820600000 — 063
ББК (84 Беи )6
М302(03) — 96

Літаратурна-мастацкае выданне

**Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч**

У ТРОХ СОСНАХ...
*Сатыра, гумар, лірыка*

Рэдактар К. Я. Жук. Мастак М. Р. Казлоў. Маетацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Я. А. Бебель.

Здадзена ў набор 15.01.96. Падп. да друку 18.11.96. Фармат 60Х90 1/32 Папера кн.-часоп. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 3,50. Ум. фарб.-адб. 3,62. Ул.-выд. арк. 3,03. Тираж 700 экз. Зак. 801.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, г. Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.